БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

15 студзеня 1994 г.
Субота
№ 5(13721)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК






Павярнула сонца на лета.

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### СТОП-ФАКТ

### Усё гатова да прыезду Клінтана

*Калі не адбудзецца ніякіх карэктыў у праграме знаходжання Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Біла Клінтана ў Беларусі, з Масквы ў Мінск ён прыляціць 15 студзеня ўжо разам са сваёй жонкай Хілары і дачкой Чэлсі.*

Як вядома, у Хілары і Чэлсі Клінтан — свае планы ў беларускай сталіцы. Для дачкі Прэзідэнта ЗША ў Дзяржаўным харэаграфічным вучылішчы рыхтуецца паказальны ўрок, а яго жонка накіруецца ў ДАВТа. Як паведаміў намеснік дырэктара тэатра Віктар Юдчыц, высокай госці будзе паказана адна з самых яркіх пастановак Валянціна Елізар'ева — вакальна-харэаграфічнае прадстаўленне, створанае на аснове кантаты Карла Орфа "Карміна Бурана".

Разам з Хілары Клінтан у тэатры оперы і балета будуць прысутнічаць і жонкі першых асоб нашай рэспублікі — Ірына Шушкевіч і Алена Кебіч.

### Дарэчы...

*Дваццаць гадоў таму Мінск прымаў ужо Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі.*

1 ліпеня 1974 года сюды прыбыў Рычард М.Ніксан з жонкай. У інфармацыі ТАСС паведамлялася аб сустрэчы кіраўнікоў Беларускай ССР з Прэзідэнтам ЗША, аб ускладанні вянка да абеліска на плошчы Перамогі і наведванні мемарыяльнага комплексу "Хатынь".

У час урачыстага снедання, якое далі ў гонар амерыканскага Прэзідэнта Прэзідыум Вярхоўнага Савета і ўрад рэспублікі, Рычард М.Ніксан сказаў словы, якія сталі затым вядомымі: "Я раней думаў, што Мінск і Беларусь наогул вядомы толькі тым, што ў гэтай рэспубліцы вырасла адна маленькая дзяўчынка — Вольга Корбут..."

Прэзідэнт Ніксан правёў у Мінску адзін дзень і прызнаўся, што даведаўся шмат новага аб Беларусі. У Біла Клінтана ёсць столькі ж часу для сустрэчы з нашай рэспублікай і не менш шанцаў пазнаёміцца з ёй бліжэй.

БЕЛІНФАРМ.

### Супраць эпідэмій

*Грамадзянам Рэспублікі Беларусь забяспечана канстытуцыйнае права на захаванне свайго здароўя. Гэта стала магчымым дзякуючы Закону "Аб санітарна-эпідэмічным дабрабыце насельніцтва", які быў прыняты Вярхоўным Саветам 23 лістапада 1993 года.*

З гэтай нагоды днямі ў Нацыянальным прэсцэнтры адбылася сустрэча работнікаў Міністэрства аховы здароўя рэспублікі з журналістамі.

Паводле слоў намесніка міністра аховы здароўя, Галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача рэспублікі Валерыя Філонава, прыняцце гэтага закона мае вялікае значэнне для жыхароў Беларусі, многія з якіх пацярпелі ад небяспечных вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Доўгі час прафілактыка захворванняў лічылася толькі клопатам урачоў. Але зараз, спасылаючыся на пэўны закон, гэта праблема ўрэшце стала важным накірункам сацыяльнай палітыкі дзяржавы. Закон прадугледжвае прыярытэт дзейнасці па папярэджванню ўздзеяння неспрыяльных фактараў асяроддзя на здароўе людзей. Пры гэтым, як адзначыў В.Філонаў, праз зусім новую сістэму комплекснага кантролю і нагляду будуць своечасова выяўляцца і выкараняцца парушальнікі гэтага закона, якія перашкаджаюць санітарна-эпідэмічнаму дабрабыту насельніцтва.

Ірына ШУКЕВІЧ, ЧЗ-інфарм.

### Чаго толькі не здараецца ў навагоднюю ноч

*Першымі павышэнне ўзроўню мінімальнай заробнай платы ў рэспубліцы ацанілі віцябчане, якія трапілі ў медвыцвярэзнік пасля 0 гадзін 1 студзеня.*

Тутэйшы "сціплы" сервіс абышоўся ім ужо не ў 20, а ў 30 тысяч рублёў. Усяго ж на ложках выцвярэзніка год Сабакі сустракалі 22 чалавекі.

### Бліжэй да суайчыннікаў

*Савет Міністраў Беларусі пастанавіў адкрыць у горадзе Даўгаўпілсе (Латвійская Рэспубліка) генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь.*

Як паведамілі БелаПАНу у Міністэрстве замежных спраў, консульства пакуль не дзейнічае.

### Генадзь Бураўкін вяртаецца ў Беларусь

*Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў рашэнне аб вызваленні ад абавязкаў пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Генадзя Бураўкіна.*

На гэту пасаду прызначаны Аляксандр Сычоў, які дагэтуль з'яўляўся намеснікам міністра замежных спраў Беларусі.

БелаПАН.

### Выкладчыкі! Яднайцеся... у свабодны прафсаюз!

*12 студзеня ў Беларускім дзяржаўным універсітэце адбыўся ўстаноўчы сход Свабоднага прафсаюза работнікаў вышэйшай школы.*

Выкладчыкі, якія сабраліся на сход, прынялі рашэнне аб стварэнні пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза работнікаў вышэйшай школы пры Савеце Свабодных прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь і абралі кіруючыя органы. У прыватнасці, было адзначана, што гэтая арганізацыя паступова дабіваецца павышэння зарплаты для сваіх членаў і персаніфікацыі сацыяльнага страхавання.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Курсы валют на 14 студзеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4700(5150) | 4950 | 2705(2960) | 2850 |
| "Бел-бізнесбанк" | 4200 | 4800 | 2350 | 2800 |
| "Прыёр" | 4550 | 4850 | 2610 | 2790 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

### СПОРТ

### Другія– таксама добра!

ГАНДБОЛ. Закончыўся для мужчынскай зборнай Беларусі адборачны турнір чэмпіянату Еўропы. Апошні матч яна згуляла ў сераду ў Харватыі. Перамаглі гаспадары пляцоўкі — 27:24. Але гэта нядзіўна, бо ў нас не гулялі "іспанцы" Якімовіч, Парашчанка і Карпук, якія пасля матчаў у Ісландыі адправіліся гуляць за свае клубы. Нашы занялі практычны другі радок табліцы. Цяпер, каб услед за камандай Харватыі трапіць у фінал, які пройдзе сёлета ў Партугаліі, трэба перамагчы ў стыкавых паядынках з уладальнікам другога месца ў якойсьці іншай групе.

БІЯТЛОН. Трэці этап Кубка свету пачаўся ў германскім Рапольдзінгу. Працягваюць прыемна здзіўляць беларускія біятлоністы, якія выдатна падрыхтаваліся ў алімпійскі сезон. У жанчын у гонцы на 15 кіламетраў другой прыйшла да фінішу наша Святлана Парамыгіна, наперад прапусціла яна француженку Эмануэль Кларэ. Наталля Пермякова тут дзесятая, Ірына Какуева трынаццатая, Наталля Рыжанкова — 23-я. Мужчынскую гонку на 20 кіламетраў выйграў француз Бэйлі Саленс, а наш Віктар Майгураў — сярэбраны прызёр! Вадзім Сашурын — шосты, Яўген Рэдзькін — трынаццаты, а вось Пётр Івашка і Алег Рыжанкоў — толькі на 33-й і 39-й пазіцыях адпаведна.

ХАКЕЙ. У дамашняй сустрэчы чэмпіянату МХЛ супраць омскага "Авангарда" мінская каманда "Цівалі" ўпэўнена перамагла з лікам 5:1 (2:0, 2:0, 1:1). Шайбы закінулі сярод гаспадароў Скабелка (2), Копаць, Шыткоўскі і Аўсянікаў.

Яўген ПУЧКОЎ, ЧЗ-інфарм.



### ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# "Зайчык" ездзіць у Маскву

□ Андрэй ВАСІЛЕВІЧ

У аматараў высокай палітыкі сёння свята, бо візіт Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі, безумоўна, падзея неардынарная. І няхай сабе знаходжанне Біла Клінтана ў Мінску абмяжуецца некалькімі гадзінамі, і няхай сабе прыезд высокапастаўленага амерыканца нагадвае звычайны візіт ветлівасці (вялікая палітыка, палітыка сусветнага маштабу ўсё ж робіцца ў Маскве, а не ў Мінску), ягоныя сустрэчы з кіраўнікамі Беларусі і прадстаўнікамі дэмакратычнай апазіцыі вельмі важныя для кожнага грамадзяніна, які задумваецца, як жыць далей.

Прэзідэнт ЗША дае нашым чыноўнікам прыклад шанавання гісторыі, шанавання памяці пакутнікаў. Мне асабіста даўно было брыдка чытаць і слухаць тузаніну вакол сумна вядомага месца — Курапатаў. Высвятлялі з пенай на губах, хто там страляў, каго страляў. Прабачце, гэта справа гісторыкаў. А нам бы сцішанымі прыходзіць да святога месца, бо тут загінулі людзі, незалежна ад іх нацыянальнасці, палітычнай афарбоўкі...

І вось Біл Клінтан адразу едзе ў Курапаты, каб схіліць галаву на незвычайных могілках.

Узнікае пытанне, чаму прэзідэнт паасобку сустракаецца з Шушкевічам і Кебічам. Разумны сэнс падказвае, што гэта быццам бы марнаванне часу на пытанне аб раздзельных сустрэчах. Станіслаў Шушкевіч на прэс-канферэнцыі адказаў дыпламатычна, нейкімі непераканаўчымі словамі. Пра тое, што паміж кіраўнікамі Вярхоўнага Савета і ўрада існуе глыбокае разыходжанне, ужо ўсім вядома. Вядома гэта, відаць, і пасольству ЗША на Беларусі. Магчыма, Біл Клінтан захоча сам вызначыць, хто ёсць хто на беларускім палітычным небасхіле.

Спачатку падавалася як сенсацыя, што мяркуецца сустрэча Клінтана з Пазняком. Адсутнасць каментару давала падставы думаць, што яны сустрэнуцца ледзь не адзін на адзін. Але гэта было звычайным перабольшваннем. Магчыма, нейкі дыялог паміж імі адбудзецца ў Курапатах. А сустрэча Клінтана з апазіцыяй будзе шматфігурнай. На ёй будуць прадстаўлены некалькі партый, у тым ліку і Партыя народнай згоды.

Менавіта гэтая акалічнасць вымусіла Пазняка заяўляць аб немагчымасці сустрэчы, бо ў Партыі народнай згоды ёсць былыя наменклатуршчыкі, і дарэмна іх супрацоўнікі амерыканскага пасольства залічваюць у дэмакраты.

Прамалінейная ацэнка Партыі народнай згоды з боку Зянона Пазняка ледзь не ўнесла скандал у праграму візіту. Але потым лідэр БНФ змякчыўся і даў сваю згоду на сустрэчу.

Даваць свой каментар можна будзе пасля візіту Клінтана. А пакуль грамадства трывожыцца, што будзе з нашымі грашыма? Хоць і небагатыя ў асноўнай масы кашалькі, але пытанне пра аб'яднанне грашовых сістэм рупіць. Па чарзе ў Маскву з'ездзілі Вячаслаў Кебіч і Станіслаў Шушкевіч. Паасобку, кожны са сваёй камандай.

Чаму паасобку? Зноў вымушаны гаварыць пра адсутнасць гармоніі ва ўзаемаадносінах паміж вышэйшымі службовымі асобамі — гэта калі карыстацца ўзнёслым стылем. А калі гаварыць прама, то мы назіраем усё большы разлад.

На прайшоўшай у чацвер прэс-канферэнцыі Станіслаў Шушкевіч нават выказаў недаўменне, чаму так спяшалася ўрадавая дэлегацыя апярэдзіць яго. Асабіста мяне менш за ўсё цікавяць закулісныя падрабязнасці — справа ў іншым. Адсутнасць згоды паміж урадавымі вярхамі і Старшынёй Вярхоўнага Савета наўрад ці спрыяе паляпшэнню жыцця, што вельмі і вельмі сумна.

Што датычыць вынікаў двух візітаў, то яны падаюцца рознымі камандамі па-рознаму. Акружэнне Кебіча выпраменьвае аптымізм, прадстаўляе свайго лідэра ледзь не збавіцелем нацыі. Што ж, ад іміджу залежыць далейшы палітычны лёс прэм'ер-міністра і ўжо пара збіраць у скарбонку заліковыя ачкі.

Станіслаў Шушкевіч, выказаўшы задавальненне сустрэчай з Барысам Ельцыным, быў асцярожным у прагнозах пра аб'яднанне сістэм. Так, прэзідэнт Расіі распарадзіўся, каб да 1 лютага былі падпісаны Віктарам Чарнамырдзіным дакументы ў Мінску.

Але да падпісання трэба вырашыць шэраг найважнейшых праблем: якім быць курсу беларускага "зайчыка" да расійскага рубля (нам хочацца, каб ён быў 1:1), ці ўстановяцца пасля аб'яднання сістэм аднолькавыя цэны?

Расія будзе вымушана несці велізарныя выдаткі ў трыльёны рублёў. А Беларусь, паводле прагнозу старшыні Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча, можа выйграваць штогод каля 1 мільярда даляраў. Нам добра? А Расіі... Там таксама ўмеюць лічыць грошы і не захочуць за проста так узвальваць на свае плечы цяжкае фінансавае ярмо.

Таму канчаткова гаварыць пра вынікі аб'яднання сістэм пакуль што рана.

### АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Друк ніхто прыручаць не збіраецца

□ Вольга ШАЎКО

*Сёння мы запрасілі да размовы міністра. Анатоль Іванавіч Бутэвіч, які ўзначальвае Міністэрства інфармацыі рэспублікі, да таго ж наш калега і былы чырваназменавец. У свой час ён быў намеснікам рэдактара газеты. Многія сённяшнія журналісцкія праблемы яму бачны не толькі з вышынь міністэрскага крэсла, а, як бы мовіць, знутры. У гэтым інтэрв'ю якраз і пойдзе размова пра тое, што зараз вельмі хвалюе рэдакцыйныя калектывы, — фінансавае забеспячэнне выданняў рэспублікі сёлета.*

**— Нядаўна расійскі ўрад прыняў пастанову, якая рэзка павышала затраты на выпуск газет. У выніку, нават самыя заможныя выданні не здолелі б вытрымаць такога фінансавага націску і не выжылі б. Больш за ўсё пацярпелі б, зразумела, мільёны чытачоў, бо яны страцілі б магчымасць атрымліваць любімую перыёдыку. Як вы, Анатоль Іванавіч, ацэньваеце гэту сітуацыю? Ці магчымая яна на Беларусі?**

— Што тычыцца падзей у Расіі, то я магу выказаць сваю ацэнку толькі як чытач або толькі як ваш калега. Бо вырашаць гэта пытанне справа саміх расійскіх органаў улады і саміх расійскіх журналістаў. Але, здаецца, там даўно да сродкаў масавай інфармацыі складваюцца нейкія дзіўныя адносіны. Гэта і рэарганізацыя ў кіраўніцтве сферай, тэлерадыёвяшчання, і шматлікае стварэнне новых структур. Я думаю, што расійскія сродкі масавай інфармацыі часта становяцца сродкам палітычнай гульні або палітычнай барацьбы. Я не хацеў бы, каб гэтыя моманты перакінуліся да нас у рэспубліку.



Мы ўсе ў Міністэрстве інфармацыі і я, як міністр, жадаем і імкнёмся забяспечыць роўныя ўмовы для дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі. На наш погляд, гэта значыць умовы роўныя па закону. Калі б мы паддаваліся эмоцыям ці левых, ці правых — на нас ёсць гэты націск, часта актыўны, — то даўно ўжо таксама нешта б неразумнае нарабілі ў сродках масавай інфармацыі.

Хаця і дагэтуль нас часта крытыкуюць. У прыватнасці, адбыўся "круглы стол", які правёў "Эрыдан" сумесна з газетай "Феміда". У апошнім нумары "Феміды" апублікаваны яго матэрыялы, дзе і старшыня Саюза журналістаў, і кіраўніцтва "Эрыдана", і іншыя папракаюць нас за закон "Аб друку". Гаворыцца, у прыватнасці, што ён распрацоўваўся келейна, што яго ніхто не бачыў з творчых работнікаў. У такім выпадку я задаю сабе пытанне, якім жыццём жывуць журналісты: нармальным ці як бы ў перавернутым люстэрку бачаць тое, што хочуць, ці бачаць тое, што ёсць? Справа ў тым, што той жа закон "Аб друку", апошні варыянт якога рабіла наша міністэрства, прайшоў праз рукі спецыяльна створанай творчай камісіі, якую ўзначальваў доктар юрыдычных навук В.І.Шабайлаў з Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук. У яе ўвайшлі таксама прадстаўнікі творчых калекты-

*(Заканчэнне на 2-й стар.).*

### Дзевятае неба




### "Ехалі мядзведзі..."

*У Фларыдзе сышоў з рэек цягнік, у якім транспартаваліся цыркавыя звяры.*

У выніку аварыі два чалавекі загінулі і 15 былі ранены. 19 з 35 вагонаў саставу былі поўнасцю разбураны. Звяры, якія засталіся ў жывых (сярод іх сланы і тыгры), яшчэ доўга пасля аварыі хадзілі па рэйках. Верталёт з тэлежурналістамі, што хацелі зняць аварыю, пацярпеў катастрофу непадалёку ад цягніка. Пілот і аператар дастаўлены ў бальніцу.

### Міждзяржаўны ... мост

*Шведскі ўрад адклаў сваё рашэнне аб узвядзенні моста паміж Швецыяй і Даніяй.*

Тры гады таму дзве краіны падпісалі пагадненне, якое прадугледжвае будаўніцтва чыгуначнага і аўтамабільнага моста даўжынёй 16 км, каб звязаць Скандынавію з еўрапейскім кантынентам. Работы павінны былі пачацца ў гэтым годзе і завяршыцца да 2000-га. Але сёння Швецыя праяўляе стрыманасць у адносінах да гэтага праекта. Прэм'ер-міністр Швецыі заявіў, што яго краіна дасць дазвол на ўзвядзенне моста толькі ў тым выпадку, калі будаўніцтва яго не паўплывае на марскія цячэнні.

### На іншаземцаў – з кулакамі

*У Гале прайшла 15–тысячная забастоўка іншаземцаў, якія пражываюць у Германіі.*

Прычынай паслужыла нападзенне ў мінулы панядзелак групы маладых немцаў на пажылую іншаземку ў інваліднай калясцы. Гэта ўжо чацвёрты такі выпадак за апошні час.

### Разюшаная рака

*На поўдні Вялікабрытаніі, у Чэстары, адбылася паводка.*

Узровень вады ў рацэ падняўся пасля праліўных дажджоў. Службы бяспекі стараюцца зрабіць усё, каб паводка не дайшла да цэнтра горада. Штодзённа адпампоўваецца каля 40 мільёнаў літраў вады з ракі, каб зменшыць яе ўзровень. Прагназіруюць, што калі дажджы не спыняцца, то вада затопіць і дамбы. "Еўраньюс"

**Бізнес-клас**

*Вядучая рубрыкі — Вера ПАЛЯКОВА*

**Тэл. 68-28-52**

## Прыватызацыя праз аўкцыён

Брэст — лідэр у правядзенні малой прыватызацыі ў Беларусі. Таму менавіта гэты горад выбраны месцам правядзення семінара "Аб стане малой прыватызацыі ў Беларусі", які адбудзецца 26—27 студзеня. Арганізуюць яго Савет Міністраў, Дзяржмаёмасць Рэспублікі Беларусь сумесна з Міжнароднай фінансавай карпарацыяй, якая, з'яўляючыся членам групы Сусветнага банка, аказвае тэхнічнае садзейнічанне ў ажыццяўленні праграм прыватызацыі ў краінах былога Саюза ўжо два гады.

Па запрашэнню ўрада Беларусі і пры фінансавай дапамозе Агенцтва ЗША па міжнароднаму развіццю Міжнародная фінансавая карпарацыя пачала працаваць у Брэсце яшчэ ў маі мінулага года над распрацоўкай юрыдычных і арганізацыйных пытанняў правядзення малой прыватызацыі на падставе адкрытых аўкцыёнаў.

Семінар, прысвечаны першым поспехам, а таксама тым крокам, якія неабходна зрабіць, каб паскорыць працэс прыватызацыі цалкам на Беларусі.

На адкрыцці семінара будуць прысутнічаць першы намеснік Старшыні Савета Міністраў М.У.Мясніковіч і старшыня Дзяржмаёмасці В.П.Мацюшэўскі. З дакладамі выступяць старшыня Брэсцкага гарвыканкама, мэр Ніжняга Ноўгарада, а таксама эксперты МФК.

У 1993 годзе ў Брэсце адбыліся два адкрытыя аўкцыёны, а трэці запланаваны на другі дзень семінара. Удзельнікі апошняга будуць мець магчымасць агледзець адрамантаваныя крамы, якія былі прададзены на першых двух гарадскіх аўкцыёнах, і пераканацца ў рэальных выніках прыватызацыі. Напрыканцы семінара прадстаўнікі ўрада Рэспублікі Беларусь, Брэсцкага гарвыканкама і МФК адкажуць на пытанні журналістаў.

## Грошы за праезд. Немалыя

Прынята рашэнне аб устанаўленні платы за выдачу ўладальнікам транспартных сродкаў рэспублікі дазволаў на праезд гэтых сродкаў па тэрыторыях замежных дзяржаў. Плаціць можна як у СКВ, так і ў рублях ці "зайчыках" па курсу. За дазвол на праезд па тэрыторыях краін СНД уладальніку прыйдзецца заплаціць 10 даляраў, а па тэрыторыях краін далёкага замежжа — 30.

## Перш чым хварэць – падумай

З 5 студзеня ў аптэках горада падскочылі цэны на лекавыя прэпараты. Яны закранулі 242 найменні прэпаратаў, 216 з якіх — імпартнай вытворчасці, а астатнія — айчынныя, рэалізуемыя па фіксаваных цэнах. Самы дарагі лекавы прэпарат — імпартны "Дэпастат" — каштуе сёння амаль 113 тысяч рублёў. Так што лепш не хварэць.

## Хутка кірмаш "1000 дробязей"

Поўным ходам ідзе падрыхтоўка да чарговага міжнароднага кірмашу "1000 дробязей", які адбудзецца 9—10 лютага бягучага года ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры. Як паведаміў генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Цэнтр — XXI стагоддзе" (Цэнтр падтрымкі прадпрымальнасці) С.М.Качаргін, заяўкі на ўдзел у кірмашы падалі дзесяткі фірм Беларусі і блізкага замежжа. Сярод іх — мінскія МП "Мінтэхпром", завод "Спецаўтаматыка", кампаніі "Уол-Стрыт", "Стары свет", "Тытан і Н", МП з Жодзіна "Вясёлка", МП "Нана" з Дзяржынскага раёна. Супрацоўнікі калінінградскага завода "Кварц" будуць прадстаўляць на кірмашы паветраачышчальныя сістэмы, а\т "Яраслаўгуматэхніка" мае намер прывезці водааахоўныя касцюмы і надзіманыя лодкі.

* * *

У Мінску адбыўся чарговы метадычны семінар, арганізаваны Саюзам прадпрымальнікаў Беларусі. Больш за 700 бухгалтараў, эканамістаў і кіраўнікоў дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў пазнаёміліся са змяненнямі ў гадавой бухгалтарскай справаздачнасці, падатковым заканадаўстве і пераацэнцы асноўных фондаў, што былі прыняты на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю**

# Друк ніхто прыручаць не збіраецца

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

ваў, журналісты ў тым ліку, былі там і прадстаўнікі ад Саюза журналістаў. А сёння выяўляецца, што гэты закон нібыта знойдзены нейкім нелегальным чынам. Усё перавернута з ног на галаву! Іншая справа, што трэба закон апублікаваць у друку, і я прасіў аб гэтым камісію Вярхоўнага Савета.

Я хацеў бы, каб мы не ўсчынялі марнай валтузні вакол сродкаў масавай інфармацыі. Бо чым больш будзе такой мітусні, тым горш у рэшце рэшт тым, для каго прэса працуе, — чытачам. Чытач не хоча, у прынцыпе, ведаць, якія ўзаемаадносіны складваюцца ў рэдакцыйным калектыве, яму патрэбна канчатковая прадукцыя, якая павінна быць якаснай.

Вось прыклад расійскі: выбары і дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі ў гэты перыяд яскрава паказалі, якім чынам можна ўплываць на грамадскую свядомасць.

Што датычыць фінансавых пытанняў, — яны таксама многіх турбуюць у нас — я мушу сказаць: на сённяшні дзень палітыка дзяржавы такая — па меры магчымасцей бюджэту падтрымліваць сродкі масавай інфармацыі. Гэтую практыку, дарэчы, мы больш шырока ўвялі з 1990 года, калі нідзе такога амаль не рабілася. А мы атрымалі фінансы на газеты, часопісы і на кнігавыданне. З таго часу гэта падтрымка існуе, то ўдакладняючыся, то ўдасканальваючыся, але ні адзін год яна не адмянялася.

**— Якія выданні атрымлівалі фінансавую дапамогу летась?**

— У 1993 годзе праз Міністэрства інфармацыі фінансавалася 28 выданняў. Гэта, перш за ўсё, дзіцячыя, літаратурна-мастацкія, выданні тых згуртаванняў, якія сацыяльна не абаронены. Напрыклад, таварыства інвалідаў, таварыства беларускай мовы і г.д.

Акрамя таго, міністэрствы, якія выдавалі свае газеты, таксама фінансавалі іх.

Так што ў цэлым набралася лічба значная. Я не пагаджаўся і не пагаджуся з тымі абвінавачаннямі, што Савет Міністраў манапалізаваў прэсу праз яе фінансавую падтрымку. Давайце паразважаем. Калі б сёння знікла фінансавая дапамога, дапусцім, газеце "Раніца" (былы "Піянер Беларусі"), ці выжыла б апошняя? Ці выжылі б часопісы "Бярозка", "Вясёлка", ды і "Чырвоная змена"? Такія выданні я магу пералічваць і далей.

Што ў такім выпадку адбылося б? Мы маглі б папрасіць урад заняць наступную пазіцыю: калі ідзе крытыка ў адрас урада і міністэрства за тое, што яны праз фінансавую падтрымку імкнуцца манапалізаваць сродкі масавай інфармацыі, давайце здымем гэту падтрымку. Што прасцей? А вось тады б абвінавачванні сапраўды мелі падставу. Бо ўрад і дзяржава неразумна зробяць, калі не стануць падтрымліваць выданні, якія сёння найбольш патрэбны чытачам, найбольш актыўна працуюць на ідэі нацыянальнага, культурнага адраджэння, стаўлення суверэннасці. Меру ж гэтай адраджэнцкай тэматыкі вызначае чытач.

**На першае студзеня 1993 года ў рэспубліцы зарэгістравана 650 газет і часопісаў. З іх газет — 479, часопісаў — 146, бюлетэняў — 25. На беларускай мове — 146, беларускай і рускай — 130, беларускай і іншых — 32, рускай — 151, рускай і беларускай — 134, рускай і іншых — 51, польскай — 4, украінскай —2.**

**Заснавальнікамі з'яўляюцца: Вярхоўны Савет у аднаго выдання, Вярхоўны Савет і Савет Міністраў — у аднаго, Савет Міністраў і сузаснавальнікі — васьмі, міністэрствы і ведамствы — 36, Савет народных дэпутатаў — 137, дзяржаўныя прадпрыемствы і арганізацыі — 85, навучальныя ўстановы і Акадэмія навук — 34, асацыяцыі, фірмы, акцыянерныя таварыствы, малыя прадпрыемствы, кааператывы — 130, калектывы рэдакцый — 53, рэлігійныя арганізацыі — 13, грамадзяне — 72, грамадскія арганізацыі — 74, агенцтвы — 2, грамадскія арганізацыі дзяржаўных устаноў і камерцыйных фірм — 4.**

Але ж адбываецца фінансаванне і рускамоўнага друку: "Советская Белоруссия", "Беларуская ніва", "Фізкультурнік Беларусі", "Нёман" і г.д. Значыць, зноў жа дзяржава клапацілася пра чытача: даць яму магчымасць выпісаць патрэбнае выданне па даступнай цане.

Іншая справа, што бюджэт не вытрымае фінансавання ўсёй перыёдыкі. Ды ёй і самой, відаць, гэта не патрэбна ў часовым парадку...

Акрамя таго, я лічу, што фінансаванне выданняў гэта не столькі дапамога калектывам рэдакцый, колькі сацыяльна-незабяспечаным жыхарам рэспублікі. Уявім сабе, што часопіс "Вясёлка" паставіў бы рэальную цану на вокладцы экземпляра. Каштаваў бы нумар сотні рублёў. Ці быў бы ён даступны дзіцяці, якое і так многім абдзелена ў гэтым жыцці? Або ўзяць часопіс "Полымя". Сёння на ім стаіць цана 160 рублёў, а па сабекошту нумар абышоўся б недзе 1300 рублёў. Ад каго б мы адвадзілі літаратуру? Ад студэнтаў, ад пенсіянераў, у рэшце рэшт ад бібліятэк?

Крытыкавалі Савет Міністраў і за тое, што ён фінансаваў "Советскую Белоруссию" як самую масавую. Але ж гэта таксама падтрымка чытачам. Бо яны павінны былі б са сваёй кішэні выкладваць сумы, якіх не маюць. Сёння, напрыклад, тая ж "Советская Белоруссия" стала даражэйшай, чым усе, у два разы, і тыраж яе адразу зменшыўся. Хаця гэта не звязана з якасцю публікацый.

**— Якія памеры фінансавання выданняў рэспублікі прадугледжваюцца сёлета?**

— У гэтым годзе пытанне было вельмі складаным. Улічваючы, што бюджэт надзвычай напружаны, Міністэрства інфармацыі пры распрацоўцы прынцыпаў фінансавання вяло доўгія перамовы з калектывамі рэдакцый, перш за ўсё тых, якія фінансаваліся праз наша міністэрства летась. Мы прасілі кіраўнікоў выданняў, каб яны шукалі па магчымасці праграмы самаразвіцця. Г.зн. займаліся рэкламнай дзейнасцю, камерцыйнай, знаходзілі спонсараў. Але, зразумела, у поўным аб'ёме гэта зрабіць немагчыма. Таму ёсць два падыходы. Дзіцячыя выданні, літаратурна-мастацкія, беларускамоўныя будуць фінансавацца, калі можна так сказаць, па большай шкале.

**— А дакладней?**

— Працэнты мы тут не вызначалі і не будзем вызначаць. Ва ўсякім разе ў памерах, набліжаных да іх патрэб. Лішняга ні мы даваць не зможам, ні Мінфін нас не падтрымае ў гэтым. Але ж нельга дапусціць і той мяжы, за якой выданне не магло б існаваць. Яно павінна было б скарачаць або колькасць нумароў, або аб'ём, або нейкім чынам зноў жа ісці насуперак інтарэсам чытачоў.

Другая катэгорыя ў прынцыпах фінансавання — тыя выданні, дзе затраты будуць пакрывацца ў розных працэнтных суадносінах, можа, каля 75 працэнтаў. Астатнія сумы яны могуць знаходзіць самі: і за кошт падпіскі, і за кошт рэкламы. Але зноў жа мы не ўстанаўліваем цвёрдай мяжы. У кожным канкрэтным выпадку, для кожнага выдання будзем прымяняць плаваючы, калі можна яго так назваць, барометр ацэнкі фінансавага становішча. Калі будзе бачна, што выданню цяжка, то, я думаю, нам пойдуць насустрач, каб падтрымаць гэтыя выданні больш актыўна.

Аднак тэндэнцыю на самаразвіццё, на пошук грошай, на іх зарабліванне трэба захоўваць.

Такім чынам, адны выданні, якія не змогуць зарабляць сабе на рэкламе, будуць фінансавацца больш. А вось тым, якія што-нішто змогуць ад рэкламы атрымаць, з улікам гэтых заробкаў фінансавая падтрымка будзе меншая.

Трэба адзначыць, што сёлета праз наша міністэрства будуць фінансавацца не толькі тыя 28 друкаваных органаў, якія мы падтрымлівалі летась, але і ведамасная перыёдыка. Акрамя таго, матэрыяльная падтрымка аказвалася і будзе аказвацца выданням нацыянальных меншасцей. Летась яна была разавай. Гэткую ж разавую падтрымку атрымаў часопіс "Хрысціянская думка", некаторыя іншыя беларускамоўныя выданні з рэгіёнаў, з раёнаў. Напрыклад, гродзенская "Пагоня", раённыя газеты з чарнобыльскай зоны. Для апошніх сітуацыя склалася асабліва цяжкая, бо тыражы яны маюць невялікія.

**— Апошняе пытанне, Анатоль Іванавіч. Якая сёння ў рэспубліцы агульная інфармацыйная прастора?**

— Сёння абсалютную большасць складаюць так званыя незалежныя выданні, іх заснавальнікамі з'яўляюцца камерцыйныя структуры, калектывы рэдакцый і г.д.

Акрамя таго, сёлета зарэгістравана 229 тэлерадыёпраграм. З іх 178 праграм тэлевяшчання і 51 радыёвяшчання. І тут тая самая тэндэнцыя: у большай колькасці заснавальнікі праграм — малыя прадпрыемствы, асацыяцыі, кааператывы і інш. Да таго ж на 1 студзеня 1994 г. выдадзена 693 ліцэнзіі на права займацца выдавецкай дзейнасцю.

Хачу падкрэсліць асабліва: усё-такі наш сённяшні інфармацыйны рынак становіцца больш багатым: з'яўляюцца новыя тэле- і радыёпраграмы, адкрываюцца газеты і часопісы. Я хацеў бы звярнуцца перш за ўсё да кіраўнікоў гэтых сродкаў масавай інфармацыі. Мы, Міністэрства інфармацыі, не аддзяляем сябе ні ад іх праблем, ні ад іх дзейнасці. І непаразуменні, якія часам узнікаюць, адбываюцца не з-за таго, што ў нас у міністэрстве ёсць нейкія злосныя людзі, якія хочуць зрабіць горш сродкам масавай інфармацыі. Такіх намераў няма. Мы хочам і прасілі б усіх быць разам, паяднацца ў вырашэнні тых праблем, якія існуюць: і заканатворчыя, і матэрыяльна-тэхнічныя, і фінансавыя. Мы гатовы, чым можам спрыяць: ад парады да матэрыяльнай дапамогі.

**ІМПРЭЗЫ**

# Стары Новы год

□ **Уладзімір МІХНО**

*Люблю я Стары Новы год. Люблю менавіта за тое, што яго... не трэба сустракаць.*

Адшумела навагодняе застолле. Пакуль што яшчэ можна назваць застоллем — быў стол і было, дзякуй Богу, на стале, вось толькі яда ў рот чамусьці не лезла. Не ведаю, можа, таму, што так доўга чакаў-рыхтаваўся да Новага года і, мабыць... перагарэла. І былі сябры, як ніколі шмат, і як ніколі раней адчуваў сябе між іх адзінокім. Можа, таму, што з новымі сябрамі яшчэ не паспеў з'есці пуд солі, а старыя некуды неўзаметку пазнікалі, як пазнікала неўзаметку і соль, буйная, звычайная, з крамаў. І быў тэлевізар, на які чамусьці не хацелася нават глядзець. Я ўвогуле зразумеў, што глядзець на тэлевізар у наш час не проста шкодна для вачэй, але непамысна для душы. Можна не толькі сапсаваць сабе густ ды страціць пачуццё рэальнасці, можна, і вельмі нават лёгка, ператварыцца самому ў такую вось драўляную скрыню з каляровым, а ці блакітным — гледзячы на чый густ — экранам-тварам, у якога заміж клёпак — кнопкі. Адным словам, можна зрабіцца поўным ідыётам.

І адзвінелі Каляды — слаўнае народнае свята, якое яшчэ нікому не паспела нагнаць аскому, бо яго ж так доўга забараняглі. КАЛЯДЫ. Алесь Разанаў, каб пісаў вершаказ, пэўна, вызначыў бы: Каляды — каляныя, лядовыя, звонкія і халодныя. Я вершаказа не ўмею, таму скажу прасцей: Каляды — тое, што Богу было заўгодна зрабіць асабіста для мяне назаўсёды чорным і самотным. Ну, ды гэта асабіста для мяне... А ўвогуле, прызнацца, я перастаў любіць святы. Гэтаксама ж перасталі любіць святы мае сваякі і суседзі, мае знаёмыя і незнаёмыя, мае землякі — мой народ.

Народ, які даношвае анучы, купленыя яшчэ за "гнілым сацыялізмам". Народ, які перастаў баяцца нешчаслівага трынаццатага чысла, затое генетычна дрыжыць перад кожным першым і пятнаццатым штомесяц. Народ, які болей не верыць ні дзяржаўнай ашчаднай кніжцы, ні дзяржаўнай канстытуцыі, ні самой дзяржаве. Народ, які, здаецца, невылечна захварэў, і назва той хваробе — ДЗЯРЖСТРАХ. Ён, народ, не тое, каб не любіў, ён баіцца свята, таму што болей не верыць казцы, нібыта СВЯТА прыходзіць у яго дом.

"Говорят, под Новый год, что ни пожелается, все всегда произойдет, все всегда сбывается...". У мяне адно жаданне: каб разам са старым годам адышлі ў нябыт хлусня, крывадушша, фанабэрыя. Некалі малы я стараўся задумаць як мага болей жаданняў, каб паспець да дванаццатага ўдару Курантаў пракруціць іх. Жаданні былі светлыя і наіўныя, але рэальныя. Сам я наіўна верыў, што яны абавязкова збудуцца, толькі паспець да дванаццаці... І яны, дзіва, збываліся.

Зніклі навагоднія Куранты — Беларусь сустракае зараз Новы год па ўласным часе.

Зніклі навагоднія жаданні. Якому Дзеду Марозу ці нават Настрадамусу пад сілу прадказаць зараз тое, што будзе са мною і з маёю краінаю заўтра, паслязаўтра, праз месяц ці праз год? І ніякаму Кебічу не па зубах усяліць мне ўпэўненасць у заўтрашнім дні: у заўтрашнім дабрабыце, у заўтрашнім стабільным рабочым месцы, у заўтрашнім цвёрдым, але ж не драўляным, рублі. І ніякая дзяржбяспека не стане мне гарантаваць, што заўтра бязбоязна выйду на вуліцу, смела буду хадзіць па сваёй зямлі, што пражыву на ўласную заробленую капейку, няхай не надта шыкоўна пражыву, абы каб без торбы.

На падыходзе — татальная ваўчарызацыя краіны. Дзяржава літасціва падасць мне, нібы жабраку, тое, што адабрала сярод белага дня хаця б нядаўна, разам з ашчаднаю кніжкаю, ды запросіць мяне прычасціцца да прыватызацыі. Колькі ж татальнага зведаў мой народ! Калектывізацыя, мабілізацыя, прыхватызацыя. Часам мне пачынае здавацца, што ваўчарызацыя ў грамадстве паявілася не сёння, а ўжо даўно, спакваля, не спяшаючыся, пускала глыбокія карані ў народную глебу.

— Как оно ничего? — пытаюцца ў расіяніна.

— Пре-красно! — адказвае той па прывычцы і нават не заўважае, што ўжо не "пре-красно", а "пре-коричнево". Асабліва ў новай Думе.

— Як справы? — пытаецца беларус у самога сябе, па прывычцы калькуючы з суседняе мовы нават прывітанне. На ўсякі выпадак азіраецца на Расею і сам сабе адказвае. — Як справа, так і злева. Куды ні кінь — усюды клін(тан), куды ні цэль, усюды ель(цын).

Мяне сёння ўсе, як згаварыўшыся, пераконваюць, нібыта дарога мая да шчаслівай будучыні ляжыць акурат праз бізнес. Гэтаксама ў трыццатыя гады пераконвалі майго дзеда: твая будучыня — калгас, а ў 60-я — бацьку: тваё заўтра — камунізм, і ўсяго праз дваццаць гадоў. Ледзьве не: "У камунізм — датэрмінова і з апярэджаннем графіка!". Між тым, бяру слоўнік Даля, чытаю: "Бизнес — ловкая афёра". Выходжу на вуліцу — і не трэба быць Далем, каб у гэтым пераканацца, каб пабачыць на ўласныя вочы, колькі ж гэтая афёра напладзіла пошасці на зямлі маёй, колькі несправядлівасці насеяла, якая варожасць вырасла між людзьмі, парабіўшы іх сапраўднымі ваўкалакамі. Хіба ж не ваўчарызацыя, калі выжывае мацнейшы, хітрэйшы, той, хто ўвішны і нахабны, а паміраюць абяздоленыя, убогія, безабаронныя, а працаўнік, не гультай, але працаўнік сумленны цягне лямку рабочага вала і за тое атрымлівае кармленне, прабачце, як жывёла. І навошта мне, скажыце, той бізнес, калі я не маю цягі да ўласнасці, калі нарадзіўся я не бізнесменам? І хіба за тое, што не нарадзіўся бізнесменам, я павінен памерці, альбо мадзець, адчуваючы сябе пасынкам на сваёй зямлі? І чаму я, скажыце, павінен паверыць нейкай чарговай ваўчарызацыі, калі мяне не раз падманвалі то з калектывізацыяй, то з камунізмам, то з перабудоваю, то з галоснасцю, то з дэмакратыяй? Калі з маёю думкаю, якую запыталіся ў мяне прылюдна, на рэферэндуме, схадзілі апасля пад елку, што ў Белавежы. І гэта кажу я, чыя мова, беларуская, а не расейская, стала сэнсам майго жыцця, чыя бацькаўшчына — Беларусь, а не Расея, мне мілей, мабыць, як катораму графу з Канады, бо я жыву на ёй, а не настальгую з-за акіяна.

Выходзіць, я супраць суверэнітэту, выходзіць, жадаю зямлі сваёй і надалей гібець пад ярмом, а ці польскім, а ці расейскім? Дый вораг ёй такога не пажадае. Толькі ж я супраць такога вось скараспелага суверэнітэту, калі за Воршаю — межы, якія адгарадзілі мяне ад маіх армейскіх сяброў, з кім разам служылі ў Падмаскоўі. Служылі — рускі, казах, кабардзінец, азербайджанец, армянін, малдаванін, беларус і нават не снілі, што неўзабаве станем усе замежнікамі, што ні ліста не дашлём, не тое, каб прыехаць-сабрацца разам на былое месца службы. Бо там жа, у Маскве, зараз не да нас. Там... ваюць, там прыніжаюць чалавека падазронаю рэгістрацыяй, там штрафуюць "нянаскіх", там сяброў маіх, якія мелі неасцярожнасць нарадзіцца з "лицами кавказской национальности", могуць і ў каршэнь пагнаць.

Толькі ж я супраць такога суверэнітэту, які напрамую залежыць ад цюменскага нафтакраніка і ад беларускай талерантнасці ў адносінах з вялікім усходнім суседам. Да нас, на Беларусь, усё прыходзіць пазней: і дэмакратыя, і пачуццё нацыянальнай годнасці, і ўменне гаспадарыць у сваім доме, не аглядваючыся на суседа цераз тын, нават Новы год спазніўся да нас на цэлую гадзіну. Вось толькі суверэнітэт аб'явілі мы за кампанію, разам з усімі, дый то затое, што не было выйсця іншага, бо засталіся мы ў Саюзе непарушным адны, голыя, босыя і на чарнобыльскім прысаку. Так і стаім, разгубленыя, аж дагэтуль не вырашыўшы, ці па-свойму вучыцца гаварыць, а ці зноўку на расейскі капыл... Мабыць, таму і маўчым. Ці доўга яшчэ маўчацьмем? Бо нашае ж маўчанне ўспрымаюць як пакорлівасць ды згоду?..

Люблю я Стары Новы год. Свята непрыкметнае, не пампезнае. Можна паставіць свечку і ціха, якраз апоўначы, загадаць аб заўтрашнім лёсе, сваім і Беларусі. А калі варажбу на кававай гушчы лічыш несур'ёзным занятакам, можна проста ўспомніць год мінулы, паглядзецца, як у люстэрка, у леташняе, у пражытае, бо з вышыні пражытага заўсёды лепей убачыш і свой твар, і памылкі заўважыш, і хутчэй прыдумаеш, як іх выправіць. Бо наіўна верыць, быццам бы Новы год можа з нічога-ніякага нарабіць раптам новага шчасця, хто ні спрабаваў шчасця на голым месцы пабудаваць, яшчэ ні ў кога не атрымоўвалася. Бо Новы год — гэта лагічны працяг года Старога.

**АТЫ-БАТЫ**



*Гэта воінская часць незвычайная ўжо сваёй спецыфікай — тут абясшкоджваюцца пратэрмінаваныя боепрыпасы. Да таго ж знаходзіцца яна (дарэчы, адзіная ў Беларусі) на тэрыторыі, забруджанай Чарнобылем. Усе бліжэйшыя населеныя пункты даўно адселены. А для перадыслакацыі воінскай часці неабходны не толькі час, але і каласальныя сродкі, якіх сёння, на жаль, няма.*

*І ўсё ж сітуацыя не такая ўжо безвыходная. Дзякуючы клопатам камандзіра часці палкоўніка Аляксандра Аляксандрава ў бяспечную зону пражывання пераселены не толькі афіцэры, прапаршчыкі і служачыя, але і салдаты тэрміновай службы. У Гомелі для іх пабудавана даволі добраўпарадкаваная казарма. Тут ёсць сталовая, більярдная, лазня з саунай, бібліятэка. Кожны вечар пасля службы разам з афіцэрамі выязджаюць з часці і салдаты, вольныя ад нарада. І хоць расходы на транспарт, дадатковае харчаванне немалыя, у часці ідуць на гэтыя затраты. На думку камандзіра, галоўнае — гэта людзі, і ўсё павінна быць зроблена для іх здароўя і камфорту.*

Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ.

Фота аўтара.

**ЗВАНОК НА ЎРОК**

# Школьнае "сёння" нейтральнага колеру

□ **Ірына ЗАВАДСКАЯ**

*Разам з навагоднімі святамі школьны год паспяхова крочыў на сваю другую палову. Безумоўна, сярэдзіна шляху — не падстава для падвядзення вынікаў. Але затое самы зручны момант, каб азірнуцца і паспрабаваць асэнсаваць тое, што паспелі набыць нашыя беларускія школкі да гэтага часу.*

*Так вось і атрымалася, што сваё першае інтэрв'ю ў новым годзе я прымервала да наведвання ўстановы, найбольш дасведчанай наконт таго, што адбываецца ў сучаснай сістэме адукацыі і выхавання.*

Перш, чым адказваць на мае пытанні, начальнік упраўлення народнай адукацыі г.Мінска Генадзь Дзям'янавіч ДЫЛЯН палічыў патрэбным нагадаць такія-сякія лічбы. Вось гэтыя, напрыклад:

— Зараз у горадзе працуюць 234 школы, 17 з якіх лічацца "школамі новага тыпу". Сярод іх 13 гімназій, 3 ліцэі і адзін каледж. Ёсць яшчэ шматпрофільныя школы з дыферэнцыраваным навучаннем — іх тры. Наогул, уся гарадская сістэма адукацыі адметная тым, што апошнім часам тут распачаўся актыўны працэс прадметнай дыферэнцыяцыі. З'явіліся новыя школы з паглыбленым вывучэннем замежных моў, а таксама з агульнаэстэтычным, музычна-харавым, мастацкім, тэатральным і іншымі "ўхіламі", — як бачыце, асаблівая ўвага ўдзяляецца менавіта эстэтычнаму выхаванню. Акрамя ўсяго, у Мінску пачала распрацоўвацца яшчэ адна цікавая ідэя, добра вядомая ў мінулым стагоддзі, — рэальнае навучанне. Існуе пэўная катэгорыя дзяцей, якім не патрэбен увесь той "гмах" ведаў, што прапаноўваецца звычайным школьнікам, — утойваць тут няма чаго, такія дзеці сапраўды ёсць і нічым не горшыя за астатніх, проста іхнія здольнасці і інтарэсы больш скіраваны ў вытворча-тэхнічным напрамку. Улічваючы гэты фактар, мы прыгадалі царскую Расію, дзе навучанне вялося па двух профілях — класічным і рэальным, і прапанавалі некаторым школам стварыць у сябе першыя эксперыментальныя класы. Працуюць яны наступным чынам: чатыры дні па агульнаадукацыйнай праграме — але крыху скарочанай, калі параўноўваць са "звычайнымі" класамі, і два дні агульнатэхнічнай падрыхтоўкі — "лішні" час вызваляецца якраз за кошт скарачэння гадзін некаторых школьных дысцыплін. У гэтым годзе чакаем першы выпуск рэальных класаў — мяркуецца, што частка навучэнцаў нават атрымае пасведчанні з пацвярджэннем набытай спецыяльнасці. Усё залежыць ад наяўнасці добрай матэрыяльнай базы — на якім узроўні школа зможа падрыхтаваць спецыяліста. Але калі хлопец нават і не атрымае ніякіх "корачак" — але авалодае (няхай сабе і на пачатковым узроўні!) прафесіяй печніка альбо будзе рэзаць па дрэве, ужо не прападзе.

**— Гэтая форма навучання — пакуль што адзін эксперымент ці нешта больш сур'ёзнае?**

— Пакуль эксперымент. Але вельмі сур'ёзны... Рэальныя класы — гэта пераважна 10-я і 11-я. Але ёсць такія школы, дзе падобнае прафесійнае навучанне пачынаюць ужо з 8-га класа. Наконт гэтага (з якога ўзросту лепш пачынаць) яшчэ шмат супярэчлівых думак. Але ўжо распрацавана неблагая нарматыўная база: створаны праграмы навучання, прыняты адпаведныя рашэнні і распараджэнні. Нават ёсць адна школа цалкам рэальнага профілю. Праўда, гэты факт мы пакуль асабліва не афішыруем — вось калі школа "акрэпне", можна будзе звяртацца туды "па вопыт".

**— Прабачце, але ж не «са столі» ўзялася гэтая ідэя? Хоць рэальныя класы існавалі яшчэ ў «часы імперыі», сёння падобны напрамак — зусім новы...**

— Калі з'явіўся дакумент, дзе былі вызначаны новыя правілы прыёму ў дзесятыя класы, мы зрабілі пэўныя падлікі — і прыйшлі да высновы, што прыкладна дзве тысячы дзяцей застанецца па-за ўсялякай адукацыяй: ПТВ ж не гумавыя. Вось і вырашылі стварыць сістэму класаў з разліку на гэтыя дзве тысячы, і амаль што ўсе тыя падлеткі зрабіліся вучнямі рэальных класаў. Сёння толькі 315 чалавек у нас "на вуліцы" — не таму, што не хапіла месцаў, проста так павінна было здарыцца... Ёсць падлеткі, што наогул не церпяць патрэбы ў адукацыі. Зрэшты, калі што — у іх яшчэ застаецца шанц давучыцца ў вячэрняй школе, у якой, лічу, вялікая будучыня. Для такіх "незанятых", што нідзе не працуюць і не вучацца, на базе вучэбна-вытворчых камбінатаў цяпер ёсць працоўныя месцы, не столькі для навучання, колькі для работы. Для падлеткаў гэта рэальная магчымасць зарабіць хоць якую капейчыну. Але тут ужо абавязковыя майстар і выхавальнік — "кантынгент", вядома, які...

**— Калі ласка, больш падрабязна раскажыце пра «школы новага тыпу».**

— Кожная наша гімназія мае свой індывідуальны план навучання, свой напрамак (тэхнічны, гуманітарны, педагагічны, нацыянальна-культурны) — дзвюх аднолькавых не знойдзеце. Праўда, агульная для ўсіх "база ведаў" пакуль застаецца абавязковай. На наш погляд, у Мінску ўзнікла ўжо дастатковая колькасць гімназій і ліцэяў, магчыма максімальная лічба — не больш як 20. Інакш у мікрараёнаў узнікае непрыемная пагроза застацца без вучнёўскіх месцаў. Мала, што кожная "школа новага тыпу" праводзіць заняткі згодна з адпаведным планам, ды й настаўнікаў і вучняў выбірае сабе "лепшых з лепшых". Толькі не ўсе здольныя быць гімназістамі... На той выпадак, калі школа вырашыла памяняць "твар", у нас працуе група экспертаў, якія павінны пераканацца, што ў навучальнай установы ёсць належная матэрыяльная база і дастаткова распрацаваны змест будучай работы. Калі ніякай арыгінальнасці ў задумцы педагогаў няма, — усё застанецца ранейшым. Жадаючых "памяняць шыльду" сёння вельмі шмат.

**— На самым пачатку размовы вы нагадалі пра школу-каледж. Што гэта за ўстанова?**

— Лінгва-гуманітарны каледж створаны на базе СШ № 24 і "прывязаны" да Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Установа, адзіная ў сваім родзе і, напэўна, застанецца без канкурэнтаў — вельмі складана арганізаваць нешта падобнае. Навучанне там разлічана на 13 гадоў, і навучэнцы атрымліваюць падрыхтоўку на ўзроўні студэнтаў першых курсаў ВНУ. Акрамя замежных моў у каледжы выкладаюцца менеджмент, банкаўская справа і іншыя сучасныя дысцыпліны.

**— Не так даўно літаральна ва ўсіх «на языку» была забастоўка, што меркавалася настаўнікамі на пачатак студзеня. Але з'явілася паведамленне, што яе «адмянілі». Чаму?**

— Быў знойдзены кампраміс паміж урадам і рэспубліканскім камітэтам прафсаюза работнікаў адукацыі. Галоўнае патрабаванне настаўніцкага прафсаюза урад фармальна выканаў — педагогі атрымалі аднаразавую "даплату", і пытанне было знята. Ва ўсякім разе, пакуль што. Зрэшты, лічу, ні той, ні другі бок не настроены святкаваць перамогу.

**— У апошнія перадсвяточныя месяцы ў Мінску адбыліся дзве буйныя канферэнцыі, прысвечаныя будучыні адукацыі. Хацелася б ведаць, якой бачыцца «школа будучыні» асабіста вам — няхай нават у ідэале?**

— Школы павінны мець права на індывідуальны план работы, але пэўны дзяржаўны стандарт будзе захоўвацца. Не скажу, што ўсе яны зробяцца дыферэнцыраванымі — гэтую прыступку цывілізаваны свет даўно адолеў, і ў Еўропе зараз ідзе працэс якраз да уніфікацыі школы. У любым выпадку наша школа павінна заставацца нацыянальнай (не ў сэнсе мовы, а ў сэнсе культуры). Павінен зрабіцца іншым хіба што змест навучання — мы ўсё яшчэ імкнёмся ахапіць тое, што цалкам ахапіць немагчыма. Па-першае, гэта не кожнаму дадзена — праз 3-4 гады не кожны выпускнік скажа, што такое электрычны ток. Па-другое, не патрэбна наогул — адукацыя павінна арыентавацца на рэальнае жыццё і ні на што іншае. Важна, каб "школа будучыні" з установы, дзе "набываюць веды", ператварылася ў своеасаблівую вучэльню творчасці, дапамагала самастойна здабываць неабходную інфармацыю. Застануцца ў яе і пэўныя выхаваўчыя функцыі — пакуль сем'і ў нас, на жаль, не самыя лепшыя.

У нас яшчэ шмат рэчаў, што "не самыя лепшыя". І сучасная школьная сістэма — таксама. Зрэшты, ужо і не самая горшая — пэўныя змены адбыліся, і пра іх нават можна гаварыць. І, дзякуй Богу, ужо не толькі, як пра асцярожныя эксперыменты.

■

